СЕНЬНЯ

ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАЕЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА

№ 207 (1476) НЯДЗЕЛЯ, 6 верасьня 1931 г.

## ПАД СЬЦЯГАМ ЛЕНІНА І ЛІБКНЭХТА УПЕРАД ДА СУСЬВЕТНАЙ ПРОЛЕТАРСКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

## Няхай жыве КІМ—баявы штаб рэвалюцыйнай моладзі ўсяго сьвету!

У дні разгару імпэрыялістычнае бойкі, у дні калі рэчкамі лілася кроў, калі ў парахавым дыме задыхалася Эўропа і тысячамі дзеля нажывы кучкі капіталістых зьнішчажаліся жудаснай мясарубкаю людзі, галоўным чынам працоўная моладзь—упяршыню быў узьняты рэвалюцыйнай моладзьдзю слаўны чырвоны штандар Леніна і Лібкнэхта.

Штандар протэстуе супроць рабаваньня і зьнішчэньня вайною працоўных, супроць здрадніка пролетарыяту—II Інтэрнацыяналу, супроць капіталістычнай сыстэмы.

Штандар барацьбы за пэратварэньне імпэрыялістычнае вайны ў грамадзянсую.

З гэтым штандарам, пад кіраўніцтвам бальшавікоў, рэвалюцыйная моладзь усяго сьвету з таго часу (1915 году, кастрычніка м-ца) кожны год у Міжнародны Юнацкі Дзень актыўна выступае супроць існуючай капіталістычнай сыстэмы, мобілізуючы на барацьбу за зруйнаваньне яе, за пролетарскую рэволюцыю пролетарскую працоўную моладзь.

17 Міжнародны Юнацкі Дзень праводзіцца ў надзвычайна складаных міжнародных умовах і абставінах: ва ўмовах нябачанага ў гісторыі чалавецтва экономічнага і політычнага крызісу які ахапіў усе капіталістычныя краіны; ва ўмовах упадку і разбурэньня прамысловасьці, росту беспрацоўя, неймавернай эксплёатацыі працоўных, у першую чаргу моладзі: у той час, калі, ня гледзячы на прасьледваньні, жорсткія катаваньні, зьдзекі над лепшымі прадстаўнікамі рэволюцыйнага руху, апошні з кожным днём узмацняецца, ва ўмовах шалёнай падрыхтоўкі капіталістых да новай імпэрыялістычнай бойкі, накіраванай у першую чаргу супроць бацькаўшчыны сусьветнага пролетарыяту—СССР.

Наша [...] на ня ведае крызісаў; яна ліквідавала беспрацоўе, шпаркімі тэмпамі будуе соцыялізм і сёлета заканчвае фундамант соцыялістычнай экономікі. Наша працоўная моладзь акружана ўвагай пролетарскай грамадзкасьці.

Вось таму сваё сьвята,—17 МЮД працоўная моладзь у краіне Саветаў сустракае організацыяй новых ударных плянава-опэрацыйных брыгад, узмацненьнем тэмпаў у выкананьні і перавыкананьні прамфінпляну, у завяршэньні суцэльнай колектывізацыі сельскай гаспадаркі, у аўладаньні тэхнікай, узмацненьнем работы па абароназдольнасьці краіны, уступленьнем у рады ленінскага комсамолу. Толькі па Савецкай Беларусі за час падрыхтоўкі да 17 МЮД'у ў рады ленінскага комсамолу ўлілося да 40 тысяч моладзі. УсеЛКСМ на справе ператвараецца ў шматмільённую організацыю і зараз налічвае ў сваіх радох да 5 мільёнаў членаў.

Нашы братнія комсамольскія організацыі, пад кіраўніцтвам Комінтэрну і Комуністычнага Інтэрнацыяналу моладзі, да 17 МЮД'у прышлі таксама з вялікімі дасягненьнямі, як ніколі ідэйна і організацыйна згуртаванымі вакол комуністычных партый-актыўнымі змагарамі за масы. Толькі за адзін апошні год комсамол Нямеччыны падвоіў свае рады. Гэтага ён дасягнуў, праводзячы ўпартую барацьбу пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі за заваяваньне большасьці рабочай клясы, за адваяваньне моладзі з-пад разлагаючага ўплыву СІМ'у.

Комсамол Кітаю паказаў на справе вузоры гэроічнай рэволюцыйнай барацьбы і адданасьці справе выкананьня лёзунгаў аграрнай і анты-імпэрыялістычнай рэволюцыі, узмацненьня абароны савецкіх раёнаў, ператварэньня комсамолу ў сапраўды масавую, баявую організацыю.

Ня гледзячы на цяжкія ўмовы ў сваім разьвіцьці і рабоце, дабіўся значных посьпехаў комсамол Польшчы.

Сучаснае становішча, міжнародная сітуацыя і перажываны этап разьвіцьця Комуністычным Інтэрнацыяналам Моладзі, а таксама ўсім рэволюцыйным рухам патрабуюць ад ленінскага комсамолу, каб ён у першую чаргу ўзмацніў інтэрнацыянальную сувязь, выхоўваючы на слаўных традыцыях рэволюцыйнай барацьбы масы комсамольцаў і працоўнае моладзі.

Нашы посьпехі ёсьць посьпехі ўсяго пролетарыяту, посьпехі міжнароднага рэволюцыйнага руху. Яны ўзбройваюць пролетарыят на барацьбу супроць капіталізму. Задача ленінскага комсамолу заключаецца зараз менавіта ў тым, каб падначаліць усю сваю работу выкананьню асноўнага лёзунгу партыі: „Дагнаць і перагнаць у бліжэйшае дзесяцігодзьдзе передавыя ў тэхнічна-экономічных адносінах капіталістычныя краіны".

17 МЮД—сьвята барацьбы і перамог ленінскага комсамолу і працоўнае моладзі дасягнутых пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, сьвята трэцяга, рашаючага году пяцігодкі—яшчэ больш павінна мобілізаваць ленінскі комсамол і працоўную моладзь для ўдарнай работы на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва.

### Маршыруй, міжнародны юнацкі

Сёньня вуліцы
Радасьцю пеняцца,
Палыхаюць штандарамі плошчы.
Пераможная песьня
ленінцаў,
Разьвівайся ў сусьветны пошчак!
Мы гісторыі тоўшчу
пропелерам
Праразаем
Па компасу Маркса.
Канцы ў мора лепш,
Кляса Рокфэлераў,
Ці—слё пузыркамі да Марса!
Мы старое ў мартэнах расплавілі!
Забэтовілі ў мур непрабудна,
І гудуць
Будаўнічаю славаю
З Асіпстанамі Днепрабуды.
Вы-ж,
Уласнае гібелі лёкаі,
Пі ывіцё на падрэзанай крызе.
Вам растачвае шашалем лёгкае
Крызіс.
І дарэмна,
Шаноўны Пілсудзкі,
Вы цкавалі нас гончым—
Кавэрдай.
Вас да костак прабрала трасучкай
Пяцігодка
Трэцім паверхам.
Глянь:
Рабочага ўвялі Нямеччыны
Югі,
Гуверы,
Брунінгі:
— Йыльса!..
Ты-ж, таварыш рабочы,
ня мешкайся,—
Пахві цацку пад ногі ім Мільса!
Размаягуйце—
Гэта ня жарты.
Вам ня быць больш
Кантролямі банкаў,—
Уздымае
З рот фронтам
Компартыя
Рэволюцыі *Ротэ Фанэ*.
Не спалохаць нас сёньня гарматамі
З броненосцаў
Лігі нацый.
Лавай сьмерці для белых, з плякатамі
Маршыруй, Міжнародны Юнацкі!

Н. Ермаловіч.

МЮД

